# ПАГОНЯ

Чацвер
13 красавіка 2000 г.
№ 12 (459)
Кошт 70 рублёў


## Залік за хабар

**Пракуратура Ленінскага раёна Гродна распачала крымінальную справу ў дачыненні да выкладчыка М. з гарадзенскага філіяла Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання.**

6 красавіка ён быў затрыманы на месцы злачынства ў аўдыторыі гэтай ВНУ пры вымагальніцтве хабару ў суме 150 даляраў ЗША ад групы студэнтаў за здачу залікаў. Затрыманне праводзілі супрацоўнікі ўпраўлення па Гарадзенскай вобласці камітэта па арганізаванай злачыннасці пры Міністэрстве ўнутраных справаў Беларусі.

## $35.000 - для махляркі

**У гарадскім пасёлку Свіслач Гарадзенскай вобласці працягваецца расследаванне крымінальнай справы, распачатай у дачыненні да начальніка аддзела касавых аперацыяў мясцовага аддзялення Белаграпрамбанка Галіны Кавалеўскай.**

Яна падазраецца ў тым, што, злоўжываючы службовым становішчам, прысвоіла грашовую выручку на суму звыш 1,5 мільёна дэнамінаваных рублёў. Паводле дадзеных следства, на працягу прыкладна года Г.Кавалеўская таксама брала пад працэнты ў жыхароў гарадскога пасёлка, раёна і горада Гродна вялікія сумы грошай, абяцаючы ім па 10-15 працэнтаў штомесяц, тады як банкі па валютных укладах даюць такія працэнты за год. Многім унушала давер яе службовае становішча. Некаторыя нават не бралі распіскі аб тым, што аддавалі грошы.

Устаноўлена ўжо дзесяць фактаў махлярства на суму каля 25 тысяч даляраў. Адпаведна папярэднім ацэнкам, грамадзянаў, падманутых гэтай супрацоўніцай банка, у 2-3 разы болей.

Ася Куніцкая

## Крэдыт для «Лідаграпраммашу»

**Акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк» выдасць рэспубліканскаму аб'яднанню па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні аграпрамысловага комплексу «Белагроснаб» крэдыт у суме каля 18,5 мільёна нямецкіх марак на тэрмін 15 месяцаў. Гэтыя сродкі будуць накіраваны на ажыццяўленне лідскай фірмай «Лідаграпраммаш» ліцэнзійнай зборкі зернеўборачных камбайнаў.**

ААБ «Беларусбанк» выдадзена ўрадавая гарантыя па пагашэнні гэтага крэдыту. «Лідаграпраммаш» збірае зернеўборачныя камбайны «Case-525H» па ліцэнзіі карпарацыі «Case» з 1999 года. Летась з імпартных камплектуючых лідчане сабралі 10 камбайнаў, сёлета плануецца сабраць не менш за 100.

Сума, якая выдзяляецца «Лідаграпраммашу» ў выглядзе крэдыту, недастатковая для поўнага забеспячэння патрэбаў новай вытворчасці.

Сяргей Снегін

## Багацце са смецця

**У Горадні ўводзіцца дыфэрэнцаваны збор смецця. Зараз разглядаецца пытаньне наконт перадачы спэцыятагаспадарцы гарвыканкама базы ў вёсцы Пушкары, дзе будзе ажыцьцяўляцца сартыроўка смецця.**

Падлічана, што выбіраньне хаця б 10 працэнтаў карысных рэчываў з адходаў можа даць каля 92 мільёнаў рублёў прыбытку ў год. Ужо ўстаноўленыя першыя спэцыяльныя кантэйнеры для бытавога сьмецця, шкла і паперы у двух месцах горада - на тэрыторыі ЖЭС-10 і ў пасёлку Паўднёвы.

Існаваў і альтэрнатыўны праект сартыроўкі сьмецця, прапанаваны нямецкай фірмай «РБП-Іст». Але кошт гэтага праекту (пабудовы лініі пераапрацоўкі смецця) - 54 нямецкія маркі за тону ці 400-500 рублёў на жыхара горада - робіць яго неканкурэнтаздольным.

Ул. інф.




14, 15 красавіка - воблачна, з праясненнямі, вецер усходні - 2-4 м/с. Тэмпература паветра - уначы 0...+4, удзень +11...+16.

# Лідар БНФ Сяргей Мальчык адказаў на несправядлівы арышт галадоўкай пратэсту



### Дзе сядзіць Сяргей Сцяпанавіч

Кіраўнік Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ Сяргей Мальчык, змешчаны «за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця» на Дзень Волі пад адміністратыўны арышт на дзесяць сутак, працягвае галадоўку пратэсту, якую распачаў у момант арышту, 5 красавіка.

У нядзелю і ў панядзелак яго двойчы наведалі прадстаўнікі Хельсінкскага камітэта. За некалькі дзён сядзення ў спецпрыёмніку Кастрычніцкага РАУС горада Гродна Сяргей моцна схуднеў, ён скардзіўся на млоснасць і галаўны боль. Але маральна адчувае сябе вельмі ўпэўнена, дэманструе бадзёрасць. Просьбу сябраў з БНФ аб спыненні галадоўкі ён адхіліў і заявіў, што будзе галадаць да апошняга тэрміну, які заканчваецца ў суботу ў 16 гадзін 30 хвілін.

Спадар Мальчык «сядзіць» у камеры нумар чатыры, так званай «прэзідэнцкай», дзе ў свой час «сядзеў» яшчэ адзін гарадзенскі «палітычны» - лідар прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі. Гэтая камера разлічана на двух чалавек, да апошняга часу ў ёй разам з Сяргеем знаходзіліся чацвёра арыштантаў. Сацць яны вымушаныя толькі на баку, бо інакш павярнуцца немагчыма.

Сяргей Мальчык падпісаў скаргу на імя старшыні Гарадзенскага абласнога суда Аляксандра Грынкевіча, якая пададзеная зранку 11 красавіка. На скарзе старшыня паклаў візу: «Тэрмінова запатрабаваць справу». Хаця адміністратыўная справа Сяргея Мальчыка дастаўленая ў абласны суд кур'ерам, наўрад ці яна будзе рэальна разгледжаная раней за трое сутак. Хутчэй за ўсё палітычны арыштант адбудзе свой вырак да канца.

### Чаму ён так сурова пакараны

Спачатку да Сяргея органамі міліцыі не дапускаліся прадстаўнікі праваабаронцы. Вельмі адмоўна на іх візіт адрэагаваў дзяжурны па РАУС. Спатрэбіліся тэлефанаванні аператыўнаму дзяжурнаму па вобласці і асабісты загад начальніка раённага аддзела Генадзя Хацько, каб праваабаронцы здолелі сустрэцца з Сяргеем Мальчыкам.

Седзячы пад арыштам, Сяргей напісаў заяўку на арганізацыю мерапрыемстваў, прысвечаных Чарнобыльскаму шляху 26 красавіка. Міліцыянты адмовіліся перадаваць гэты ліст старшыні гарвыканкама А.Пашкевічу. Тым самым, яны пазбавілі арыштанта канстытуцыйнага права на свабоду перапіскі, што ні ў якім разе не прадугледжвалася пастановай суда аб арышце.

Вырак спадару Мальчыку выглядае выключна суровым, асабліва ў параўнанні з рашэннямі судоў горада Менска ў дачыненні да сталічных ахвяраў міліцэйскага «хапуна». Паводле слоў прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэта Аляксандра Антанюка і Алега Сідзігаева, падчас прыцягнення гарадзенскага палітыка да адміністратыўнай адказнасці і асуджэння было парушана шмат юрыдычных нормаў. Акрамя таго, аналіз справы дае падставы сцвярджаць, што ў яго дзеяннях не было складу адміністратыўнага праступку. Аднак, суд не адрэагаваў ні на парушэнні пры складанні пратакола, ні на хадайніцтвы прадстаўнікоў Сяргея Мальчыка і яго самога, не ўлічыў іх аргументы ў сваю абарону. Прадстаўнікі спадара Мальчыка не выключаюць, што на суд мог аказваць уціск.

І як не паверыць гэтаму. Ніхто не забыўся на словы гарадзенскага галоўнага «вертыкальнага» Анатоля Пашкевіча, сказаныя ім персанальна Сяргею Мальчыку два гады таму: «Мы вам храбціну пераломім». Каментароў гэтаму ПАГОНЯ даваць не будзе, а калі «вертыкальшчыкі» захочуць пракаментаваць тое, чаму яны выганяюць усе мітынгі фактычна за межы горада, чаму выводзяць на вуліцы карнікаў, якія перашкаджаюць людзям прайсці на мітынг - калі ласка, запрашаем.

### Не спыніць, не стрымаць

Запалохаць не ўдасца. Бо «вертыкаль» сама трасецца ад страху. І ў дадатак, прагуляла грошы, і няма чым выплаціць нанятым карнікам іхнія «заробкі».

Сяргей не адзін. У ягоную абарону ўжо выступілі практычна ўсе гарадзенскія палітыкі, камітэт «Гарадзенская ініцыятыва» за подпісам Сямёна Домаша заклікаў дзяржаўныя і сілавыя структуры не выконваць злачынныя загады, за якія потым давядзецца несці адказнасць. Прыходзяць лісты пратэсту супраць свавольства і ў падтрымку справядлівага змагання Сяргея Мальчыка з усіх гарадоў краіны.

Сяргей Самасей

На здымку: Сяргей Мальчык

## Памяці Аляксея Карпюка

14 красавіка спаўняецца 80 гадоў са дня нараджэння Аляксея Карпюка. Сёння гісторыка-культурніцкі клуб «Паходня» арганізоўвае Дзень памяці гарадзенскага пісьменніка. На могілках, што па праспекту Касманаўтаў, а 17-й гадзіне адбудзецца ўскладанне кветак на магілу пісьменніка. А 19-й гадзіне ўсе, хто ведаў Аляксея Карпюка, хто цікавіцца яго жыццём і творчасцю прыйдуць на вечарыну ў Гарадскі Дом культуры, што па вуліцы Дзяржынскага,1.

Ул.Інф.

## Сураў збірае сяброў

**У мінулы аўторак пачаўся мастацкі пленэр «Гарадзенскі арт-сейм». Кіраўніком праекта стаў вядомы гарадзенскі мастак Алесь Сураў.**

Алесь упэўнены, што гэтая мастацкая акцыя стане першай «альтэрнатыўвай афіцыёзу ад мастацтва». Мяркуючы па мэтах арганізатараў пленэру, яго ўдзельнікі ў выніку пакажуць прыналежнасць Прынямоння да агульнаеўрапейскай культурнай прасторы.

На працягу тыдня (колькі будзе доўжыцца арт-сейм) дзесяць мастакоў, сярод якіх Стратовіч, Сільвановіч, Малочка, Маісей ды іншыя, будуць працаваць, акрамя нашага горада, у Нясвіжы, Міры, Навагрудку.

Карціны, зробленыя падчас пленэру, на будучым тыдні будуць выстаўленыя ў галерэі «У Майстра».

Алена Сіневіч

## Імпрэсія ад Малгажаты

**У зале Гарадзенскага Саюза мастакоў праходзіць фотавыстава кветак «Імпрэсія».**

Вядомая фотамастачка з Польшчы Малгажата Далоўская здымае звычайныя пакаёвыя кветкі і спосабам павелічэньня асобных дэталяў ставарае адмысловыя вобразы кветак, якія перадаюць аўтарскую імпрэсію. Дарэчы, сама аўтарка ёсьць прэзыдэнтам польскага фонду «Фатаграфія дзеля будучыні», што мае на мэце захаваць для нашчадкаў лепшыя творы сучасных мастакоў.

Ул. інф.

## Думай глабальна - дзейнічай лакальна

**У суботу, 8 красавіка, гарадзенская моладзь ладзіла экалагічную акцыю. Сябры «Маладога Фронту», «Альянса імя Вітаўта Вялікага», «Маладой Грамады», «Дзедзічаў» ды іншых арганізацыяў прыбралі смецце, бітае шкло, састарэлую траву на тэрыторыі вакол Каложскай царквы.**

Каложа даўно стала ўлюбёным месцам не толькі вернікаў, але і тых, хто проста мае жаданне пасядзець на высокім беразе Нёмана каля старажытнай царквы. Пасля гэткіх «пасядзелак» заўсёды заставаліся недапалкі, парожнія бутэлькі з-пад піва і шампанскага. Прычына самая банальная. У гарадскіх уладаў не даходзяць рукі, каб паставіць некалькі сметніцаў.

- Мы прыбралі Каложу не таму, што хочам супрацьпастаўляць сябе ўладам. Проста гэта нашая зямля, наш горад, нашая краіна, і мы хочам бачыць яе чыстай, - адзначыў Сяргей Антусевіч, удзельнік акцыі.

Стварэць глабальныя экалагічныя праекты па аздараўленню навакольнага асяроддзя, безумоўна, варта і неабходна. Аднак на гэта ідуць месяцы і нават гады. А моладзь за дзве гадзіны працы зрабіла добрую справу, вартую пераймання. Сапраўды, думай глабальна - дзейнічай лакальна.

Павал Мажэйка

# «Мы вырашылі, што не будзем маўклівымі ахвярамі рэжыму»

**Адразу пасля «Маршу Свабоды», які адбыўся 17 кастрычніка мінулага года, яны былі на першых старонках газетаў. Калі яны з'язджалі некалькі тыдняў таму з Беларусі, некаторыя арганізацыі сварыліся між сабою, каб ім дапамагчы. Сёння Зімоўскі крычыць з блакітнага экрану пра тое, што Польшча павінна выдаць Беларусі «этих четырёх пьяных отморозков». Аднак Антон Лазараў, Андрэй Валабуеў, Герман Сушкевіч ды Глеб Догель не захацелі і не хочуць быць маўклівымі ахвярамі. Яны выбралі эміграцыю. Пра тое, як ім жывецца на чужыне, чаму яны пакінулі Радзіму - інтэрв'ю нашага карэспандэнта з гэтымі хлопцамі.**

***- Што прымусіла вас з'ехаць з Беларусі і прасіць палітычнага прытулку ў Польшчы?***

__Андрэй Валабуеў:__

- Прычына адна - пераслед лукашэнкаўскіх уладаў за тое, што мы ўдзельнічалі ў дэманстрацыі 17 кастрычніка. Нас с Глебам ды Германам узялі адразу апасля «Марша Свабоды», а Антона - пазней.

- Так (падключаецца __Антон Лазараў__ - Р.К.), мяне арыштавалі па наводцы аднаго супрацоўніка АБЭЗ (аддзел міліцыі па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі), які бачыў мяне на стужцы з «Марша Свабоды», а пазней пазнаў, калі ўбачыў на рынку, дзе я працаваў (Антон быў прыватным прадпрымальнікам - Р.К.).

***- І ў чым вас абвінавачваюць?***

__Герман Сушкевіч:__

- Нам паведамілі следчы і пацвердзілі адвакаты, што мы будзем «сядзець» мінімум па году, бо маем артыкулы 186 частка 3 (удзел у несанкцыянаваных сходах) ды 201 частка 2 (злоснае хуліганства), паводле якіх максімальны тэрмін - пяць гадоў.

***- Як вы апынуліся ў Польшчы?***

__Глеб Догель:__

- Мы былі выпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе. А зараз яе змянілі на арышт. Бо калі павінен быў быць суд (ён быў прызначаны на 30 красавіка - Р.К.), мы ўжо былі ў Польшчы. І зараз мы ў агульнаСНДоўскім вышуку.

__Герман Сушкевіч:__

- Мы вырашылі, што не будзем маўклівымі ахвярамі гэтага рэжыму. А як ехалі ў Польшчу? Ды як у мастацкім фільме. Мы ехалі па двое. Сустрэліся з Андрэем ды Антонам у Смаленску. Пазней - у Бранск, адтуль - у Кіеў ды ў Польшчу. А як трапілі, казаць не будзем, каб у людзей, якія нам дапамагалі на Украіне ды ў Беларусі, не было непрыемнасцяў з гэтай прычыны. Хай улады думаюць, што мы пераехалі польска-украінскую мяжу на зубрах. Так і напішыце...

***- Вы ўжо некалькі тыдняў у Польшчы,.. як вам тут?***

__Андрэй Валабуеў:__

- Мы зараз у Варшаве як бамжы - два дні ёсць кватэра, а два дні...

__Антон Лазараў:__

- Вось сёння - апошні дзень, і дзе мы будзем спаць - невядома...

__Глеб Догель:__

- Нам з Германам лягчэй, бо мы жывем зараз у Любліне ў інтэрнаце.

***- А ці дапамагаюць вам нейкія беларускія ці польскія арганізацыі?***

__Герман Сушкевіч:__

- На жаль, не. Нам трошкі дапамог Польскі Хельсінкскі Камітэт, «Малады Фронт» крыху...

__Глеб Догель:__

- З грашыма вельмі цяжка, няма аніякай падтрымкі. У нас з Германам стыпендыя павінна быць толькі праз год, калі мы будзем ужо студэнтамі (існуе дамова з Кракаўскім (Польшча) ды Пражскім (Чэхія) універсітэтамі, на падставе якой студэнты беларускіх ВНУ, якіх выключылі з гэтых установаў за палітычную дзейнасць, могуць працягваць навучанне ў адной з гэтых ВНУ - Р.К.), а вось хлопцам цяжка, напэўна, будзе ў Варшаве.

__Андрэй Валабуеў:__

- У мяне вельмі складаная сітуацыя, бо я не маю закончанай сярэдняй адукацыі і мяне не могуць узяць у польскія ВНУ (Андрэй не давучыўся ў сярэдняй школе два месяцы, і зараз ён не мае аніякіх шанцаў, каб вярнуцца ў Беларусь ды здаць выпускныя іспыты - Р.К.).

***- А што чуваць з палітычным прытулкам, заяву на які вы падалі?***

__Герман Сушкевіч:__

- Ды пакуль нічога - справа разглядаецца. Польская бюракратыя аднолькава ставіцца да ўсіх уцекачоў, нягледзячы на тое, што такіх, як мы - па палітычных матывах, ды яшчэ з Беларусі, зусім няшмат. Крыўдна, што еўрапейскія арганізацыі нібыта падтрымліваюць нашыя памкненні да дэмакратыі, а вось палітычныя ўцекачы застаюцца без аніякай падтрымкі.

__Антон Лазараў:__

- У мяне стварылася ўражанне, што мы тут нікому не патрэбныя: трэба па паўдня стаяць у чэргах, падоўгу шукаць супрацоўнікаў...

***- У вас ёсць магчымасць праз ПАГОНЮ перадаць вестку тым, хто вас ведае, трывожыцца за вас.***

__Глеб Догель:__

- Напішыце, што мы рабілі для ўсіх, а не для сябе. І не дзеля таго, як напісалі ў некаторых газетах, каб патрапіць у Новую Зеландыю. Гэта няпраўда! І мы абавязкова вернемся на Беларусь!! Жыве Беларусь!!!

Гутарыў
Рыгор Кавальчук




# «Чарнобыльскі шлях-2000»

**10 красавіка ў Менгарвыканкам паступіла заяўка ад групы грамадзян на правядзенне 26 красавіка ў Менску шэсця і мітынгу пад агульнай назвай «Чарнобыльскі шлях-2000», якія сталі ўжо традыцыйнымі.**

Свае подпісы пад заяўкай паставілі 82 чалавекі - прадстаўнікі палітычных партый, праваабаронцы, прафсаюзныя лідары, дзеячы навукі і культуры. «Чарнобыльскі шлях», які праводзіцца ў Беларусі з 1989 года, традыцыйна з'яўляецца самай буйной акцыяй апазіцыі. Найбольш масавым «Шлях» быў у 1996 годзе: паводле некаторых ацэнак, у ім узялі ўдзел да 100 тысяч чалавек. Па словах аднаго з арганізатараў акцыі, старшыні БНФ «Адраджэньне» Вінцука Вячоркі, сёлета мерапрыемства стане прарыем палітычнай кампаніі апазіцыі пад агульнай назвай «Вясна-2000». Таму, зазначыў ён, апрача лозунгаў, звязаных з чарнобыльскай праблематыкай, на акцыі будуць прадстаўлены палітычныя патрабаванні ў падтрымку незалежнасці Беларусі і пачатку рэальных палітычных перамоваў улады і апазіцыі. Арганізатары спадзяюцца, што гарадскія ўлады разгледзяць іх заяўку апературна і прымуць станоўчае рашэнне.

«Мы вельмі спадзяемся, што ўлады атрымаюць урок са свайго прапагандысцкага правалу сусветнага маштабу 25 сакавіка. Мы спадзяемся на здаровы розум кіраўніцтва краіны, гарадскіх уладаў і кіраўнікоў сілавых міністэрстваў», - сказаў В.Вячорка. Са свайго боку, арганізатары абяцаюць гарадскому кіраўніцтву забяспечыць правапарадак пры правядзенні акцыі.

У рамках чарнобыльскіх мерапрыемстваў плануецца таксама правесці 21 красавіка навуковую канферэнцыю па праблемах наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Юрый Пацёмкін

# Рыхтуй візу ўзімку

**Калі Вы маеце намер наведаць улетку краіну піва і сасісак - Германію, - клапаціцца пра візы трэба ўжо сёння.**

Амбасада Германіі ў Беларусі паведаміла, што ў летні перыяд чакаецца вялікая колькасць ахвотных паехаць у Нямеччыну. У сувязі з гэтым тэрмін апрацоўкі заяваў на выдачу візаў павялічыцца на некалькі тыдняў. Таму, чым раней Вы падасце заяву, тым раней атрымаеце візу.

Падаваць заяўкі на выдачу візаў можна ўжо сёння.

Ул.інф.

# Прэс-рэліз Сакратарыята Усебеларускага з'езду

Аргкамітэт Усебеларускага з'езду працягвае распрацоўку Рэгламента Усебеларускага з'езду. З гэтай нагоды ён звяртаецца да ўсіх грамадскіх арганізацыяў, палітычных партыяў, творчых і прафесійных саюзаў, якія падтрымліваюць ідэю Усебеларускага з'езду і маюць намер браць у ім удзел, зарэгістравацца ў Сакратарыяце да 14 красавіка.

Увага! Кантактны тэлефон для рэгістрацыі - (017) 223-65-29.

# Патрыёты на халяву

**Невядома, ці па ўказанню зверху, ці з уласнай ініцыятывы бэпэсэмаўцы пачалі абход гарадзенскіх школаў. Каб прывабіць старшакласнікаў у свае шэрагі, на ўсе лады жывапісуецца гэтая арганізацыя і яе дзейнасць.**

З гэтых агітак, аднак, незразумела, чаму СМ называецца БП. На пытанне аднаго гарадзенскага школьніка: «Калі ваша абрэвіятура расшыфроўваецца як «беларускі патрыятычны», чаму ж вы размаўляеце на рускай мове?» Агітатарка збянтэжылася, пачырванела, пацінула плячыма і нічога не змагла сказаць у адказ. Затое ёсць у іх адзін лагічны сродак «уловления душ» - зялёна-чырвоны членскі білет, заплаціўшы за які 220 рублёў на карысць гэтай сумнёўнай арганізацыі, можна задарма хадзіць на ўсе канцэрты, дыскатэкі, спаборніцтвы і г.д.

З гэтай прычыны палова маіх аднакласніцаў вырашыла падацца ў «патрыёты».

Сяргей Марозаў

# На Сход, на вялікі Сход, сабірайся народ!..

## 1. Што такое Усебеларускі з'езд і чаму Усебеларускі?

Група аўтарытэтных грамадскіх дзеячоў, заклапочаных пагрозай, якая навісла над беларускай дзяржаўнасцю, выступіла з ініцыятывай правядзення ў 2000 годзе Усебеларускага з'езду. Гэтую ідэю падтрымалі грамадзяне Беларусі, а таксама шэраг грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў. З'езд павінен з'явіцца механізмам шырокага і непадкантрольнага выяўлення грамадскай думкі па пытанні аб беларускай незалежнасці. У адрозненне ад Кангрэсу дэмакратычных сіл ці Форуму народна-дэмакратычных сіл, на якіх прадстаўлены толькі асобныя, хай нават і шырокія сегменты нашага грамадства, **Усебеларускі з'езд - мерапрыемства агульнанацыянальнага маштаба.** Адсюль назва з'езду - Усебеларускі. Плануецца, што на ім будуць прадстаўленыя ўсе тыя сілы, якім небыякавы лёс краіны. У з'ездзе прымуць удзел прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі, выluчаныя па тэрытарыяльным прынцыпе на сходах грамадскасці, а таксама дэлегаты ад палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, творчых і прафесійных саюзаў ды іншых аб'яднанняў.

Усебеларускі з'езд 2000 года з'яўляецца спадкаемцам традыцыі Усебеларускага з'езду 1917 года, які стаў пралогам да стварэння беларускай дзяржавы ў сакавіку 1918 года.

Як піша Уладзімір Арлоў ў кнізе «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», падзеі 1917 года спрыялі згуртаванню нацыянальных арганізацыяў, якія аб'ядналіся ў Вялікай Беларускай Радзе. Дзеля вызначэння далейшага лёсу Беларусі Рада склікала ў Менску Усебеларускі з'езд (кангрэс).

Такога прадстаўнічага сходу не здолеў у тым часе сабраць ніводны паняволены народ колішняй Расейскай імперыі. На кангрэс з'ехалася 1872 дэлегаты з усяго беларускага этнічнага абшару - ад Смаленшчыны да Беласточчыны. Апрача дэлегатаў ад мясцовага жыхарства на з'ездзе прысутнічалі прадстаўнікі беларусаў, якія служылі ў войску і на флоце, а таксама беларусаў-уцекачоў, што мусілі пакінуць Бацькаўшчыну ў сувязі з вайною. Старшынём кангрэсу быў абраны прафесар Іван Серада.

На з'ездзе прагучаў заклік «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!». Дэлегаты падзяліліся на тых, хто змагаўся за поўную незалежнасць, і тых, хто выступаў за аўтаномную дэмакратычную рэспубліку ў складзе Расеі. Другая прапанова на пачатку мела значна больш прыхільнікаў і была прынятая.

Удзельнікі кангрэсу выказалі трывогу з той прычыны, што Троцкі вядзе ў Брэсце перамовы наконт міру з немцамі без уліку інтарэсаў Беларусі. Дэлегаты выказалі недавер кіраўніцтву Заходняй вобласці (так Беларусь называлі бальшавікі). З трыбуны з'езду неадназразова зазначалася, што выканаўчы камітэт Заходняй вобласці не можа рэпрэзентаваць беларускі народ, бо ў ягоным складзе бальшыню маюць не мясцовыя жыхары, а вайскоўцы з дыслакаваных на Беларусі частак расейскай арміі.

Заходні абкам РСДРП(б), на чале якога тады быў А.Мяснікоў (Мяснікян), не прызнаваў не толькі права беларусаў на самавызначэнне, але нават самога факту існавання беларускай нацыі. Убачыўшы, што на з'ездзе няўхільна набіраюць вагу незалежніцкія настроі, бальшавікі пастанавілі разагнаць яго з дапамогаю сваіх узброеных аддзелаў. Дэкрэт аб разгоне падпісаў старшыня Савета народных камісараў Заходняй вобласці К.Ландэр.

З'езд вымушаны быў спыніць свае пасяджэнні, частку дэпутатаў бальшавікі арыштавалі. Але прытулак удзельнікам кангрэсу далі менскія чыгуначнікі, пад аховаю якіх была абраная Рада і Выканаўчы Камітэт Усебеларускага з'езду.

## 2. Якія мэты Усебеларускага з'езду?

На сённяшні дзень незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Пытанне пра тое, будзе Беларусь самастойнай дзяржавай альбо не, застаецца адкрытым. Таму галоўная мэта з'езду - адлюстраваць стаўленне грамадства ў цэлым да дзяржаўнасці рэспублікі. З'езд павінен прыцягнуць максімальна шырокія масы да абмеркавання дзяржаўных праблемаў. Толькі народ мае права вырашаць лёс сваёй дзяржавы.

## 3. Хто ўвайшоў у аргкамітэт з'езду?

Аргкамітэт узначальваюць чатыры сустаршыні: паэт Рыгор Барадулін, дыпламат і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін, акадэмік Радзім Гарэцкі і гісторык Анатоль Грыцкевіч. Апрача таго, у ягоны склад увайшлі прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў. Аргкамітэт застаецца адкрытым для тых сілаў, якія жадаюць прыняць удзел у падрыхтоўцы з'езду.

## 4. Калі плануецца правядзенне з'езду?

Правесці з'езд плануецца ў 2000 годзе. Ён адбудзецца, як толькі падрыхтоўчая праца будзе скончаная. Аднак размова ідзе пра тое, каб падрыхтаваць яго максімальна хутка. Арыенціровачнай датай правядзення з'езду можа лічыцца травень.

## 5. Якім чынам можна прыняць удзел у падрыхтоўцы з'езду?

Формы ўдзелу могуць быць розныя: прапаганда ідэі правядзення з'езду, прапановы па механізме вылучэння дэлегатаў, па фармаванні парадку дня, па рашэннях, якія могуць быць прынятыя з'ездам. Папярэдне мяркуецца, што форма правядзення з'езду таксама будзе вызначана ягонымі ўдзельнікамі. Наступным этапам удзелу ў з'ездзе будзе непасрэдна вылучэнне дэлегатаў.

**Усебеларускі з'езд - гэта народны праект,** таму меркаванне кожнага грамадзяніна Беларусі павінна быць улічана пры падрыхтоўцы мерапрыемства.

Усіх, хто падзяляе боль і трывогу за лёс нашай Радзімы і падтрымлівае ідэю Усебеларускага з'езду, запрашаем прыняць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні гэтага агульнанацыянальнага мерапрыемства.

# Ці навучыць новы начальнік слонімскіх міліцыянтаў шанаваць жыццё чалавека?

**На працягу апошніх гадоў праца слонімскай міліцыі выклікала бадай што найбольшыя нараканні з боку жыхароў. Нават паводле афіцыйных дадзеных у 1997-1999 гадах у Слоніме рэзка вырасла злачыннасць. Адначасова павялічылася колькасць злоўжыванняў з боку супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні да грамадзянаў. Вядомы выпадкі смерці людзей пасля затрымання іх міліцыяй.**

І ўвесь гэты час кіраўніцтва слонімскага ГРАУС мужна бараніла гонар мундзіра. А што ж іншыя мясцовыя дзяржаўныя органы?

Міжрайпракуратура, напрыклад, ужо трэці год не можа разабрацца, адкуль пасля затрымання міліцыяй на целе 29-гадовага Алега Дэйкі (памёр у снежні 1997 года ў слонімскім медвыцвярэзніку) з'явіліся цялесныя пашкоджанні, а на яго адзенні і абутку - кроў. Напачатку 2000 года Гарадзенская абласная пракуратура ў чарговы раз вярнула справу Дэйкі ў Слонім на дасьледаванне. А слонімскі міжрайпракурор Анатоль Яўлаш выказаў нязгоду з такім рашэннем абласной пракуратуры. Ён заявіў: «На мой погляд няма падставаў для вяртання гэтай крымінальнай справы на даследаванне». Як зараз праводзіца гэтае даследаванне і якія будуць вынікі? Пытанне, мяркую, рытарычнае.

У сваю чаргу старшыня слонімскага гарвыканкама Алег Лакцюшын разбіраўся не з мясцовай міліцыяй, а шэльмаваў тых, хто крытычна ставіўся да працы начальніка слонімскага ГРАУС Мечыслава Батуры і яго падначаленых. І мусіць невыпадкова вясною 1999 года Алег Лакцюшын атрымаў грамату ад міністра ўнутраных справаў за «намаганні ў рэалізацыі задачаў аператыўна-службовай дзейнасці праваахоўных органаў горада».

Таму не дзіўна, што галоўнай падзеяй і надзеяй многіх слонімцаў у 2000-м годзе стала прызначэнне начальнікам міліцыі Яраслава Халецкага. Вядома ж, справа тут не ў гэтай канкрэтнай асобе, а ў тым, што новы начальнік - чалавек «со стороны», не звязаны «супрацоўніцтвам» са слонімскімі ўладамі. І гэтыя спадзяванні пакуль што нібыта спраўджваюцца. Так, летась, пры старым начальніку міліцыі, нягледзячы на шэраг нераскрытых забойстваў увесну і летам (6 трупаў за травень-чэрвень 1999 года), начальнік аддзелу крымінальнага вышуку Фёдар Мядзведзеў быў павышаны ў пасадзе і стаў намеснікам начальніка міліцыі. Зараз жа гэты міліцыянт падаў рапарт аб звальненні з органаў унутраных справаў. У інтэр'ю з нагоды Дня міліцыі, новы начальнік слонімскага ГРАУС прывёў факты, якія сведчаць пра паляпшэнне крымінагеннай абстаноўкі ў студзені-лютым 2000 года ў параўнанні з адпаведным перыядам 1999 года. Безумоўна, заслугай менавіта Яраслава Халецкага з'яўляецца выкрыццё групы злачынцаў (у склад якой уваходзіць і супрацоўнік слонімскага ГРАУС - участковы міліцыянт), якія ў траўні 1999 года забілі маладых слонімцаў Віталя Хамякова і Анатоля Фідрыка. І менавіта гэты апошні факт - самы істотны ў ацэнцы дзейнасці цяперашняга начальніка міліцыі. Бо мы, грамадзяне, нанялі сабе на службу (хоць і не непасрэдна, а праз інстытут прэзідэнцтва) выканаўчую ўладу, пракуратуру, міліцыю. Утрымліваем іх сваім коштам. Мы ўсведамляем, што яны такія ж недасканалыя, як і мы самі, і таму шмат што даруем ім. За адным выключэннем. Калі пытанне тычыцца жыцця і смерці чалавека, то гэтыя ўладныя структуры мусяць спаўна адпрацаваць свой хлеб. Таму цалкам справядліва, што Мечыслаў Батура вызвалены ад абавязкаў начальніка слонімскага ГРАУС і паніжаны ў пасадзе. Лічу, што не мае маральнага права заставацца на сваёй пасадзе і старшыня слонімскага гарвыканкама Алег Лакцюшын, бо кроў людская - гэта не ржавая вада з водаправодных трубаў горада Слоніма.

Вярнуць давер людзей да міліцыі - справа нялёгкая. Як бачым, першыя крокі зроблены і трэба ісці далей:

- мяркую, што патрэбна праверка ўсіх тых фактаў гібелі людзей за перыяд знаходжання на пасадзе начальніка міліцыі Мечыслава Батуры, па якіх ёсць скаргі пацярпелых;

- перадумова эфектыўнай дзейнасці міліцыі - прафілактычная работа. Таму ключавой фігурай у аддзеле ўнутраных справаў мусіць стаць участковы міліцыянт. У першую чаргу сярод гэтай катэгорыі не павінна быць выпадковых асобаў. Тут павінны працаваць тыя, хто мае добрую рэпутацыю, хто ўмее і любіць працаваць з людзьмі;

- як падаецца, найбольш цяжка будзе змяніць псіхалогію супрацоўнікаў міліцыі. Многія з іх бачаць у чалавеку патэнцыйнага правапарушальніка. А ім жа трэба найперш бачыць у чалавеку свайго карміцеля, якога мусяць абараняць.

Гарантыяў, што менавіта так будзе зроблена, што і надалей будзе паляпшацца праца слонімскай міліцыі, няма ніякіх. Гэта залежыць ад начальнікаў, якія ад нас, жыхароў, не залежаць. Бо, як узгадвалася вышэй, мы пакуль не маем магчымасці выбіраць мясцовыя ўлады.

Такія гарантыі і такія магчымасці мы, грамадзяне, мусім стварыць самі. І абавязкова створым, калі сёння абаронім дадзенае нам не ўладамі, а Богам, права на жыццё.

**Міхась Варанец, г.Слонім**

# Замест таго, каб прыбіраць сарціры, іх зачыняюць. Дзе зрабіць пі-пі?

**Гарадзенскія камунальнікі адрэагавалі на крытыку ПАГОНІ, датычную навядзення мінімальнага парадку ў прыбіральні на Савецкай плошчы абласнога цэнтра: яе проста зачынілі. Вядома, зачыняць - не будаваць. ПАГОНЯ мяркуе, што невырашальная праблема гарадзенскіх прыбіральняў патрабуе самага радыкальнага ўмяшальніцтва з боку кіраўніцтва горада, вобласці, магчыма, усёй краіны. Таму, рэдакцыя выходзіць да ўладаў з наступнай грамадскай ініцыятывай.**

## Адкрыты ліст да старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Анатоля Пашкевіча

У сувязі з тым, што традыцыйнымі сродкамі адміністратыўнага кіравання вырашыць праблему функцыянавання гарадзенскіх сарціраў выяўляецца немагчымым, рэдакцыя ПАГОНІ прапануе:

- рэструктурызаваць уласнасць усіх гарадзенскіх грамадскіх прыбіральняў і перадаць іхнія асноўныя і абаротныя фонды ў прыватныя рукі;



- стварыць на базе існуючых прыбіральняў адкрытае акцыянернае таварыства з удзелам замежнага капіталу;

- адкрыць падпіску на акцыі дадзенага таварыства на ўсіх прадпрыемствах горада незалежна ад формы ўласнасці, дазволіць набыццё акцыяў за чэкі «Маёмасць» і «Жыллё»;

- дазволіць на ільготных умовах куплю акцыяў настаўнікам, дактарам, пенсіянерам, студэнтам і падпісчыкам ПАГОНІ (апошнім бясплатна);

- вызваліць таварыства ад уплаты падатка на дабаўленую вартасць і ўсіх мытных збораў за набытае за мяжой абсталяванне;

- абвясціць гарадскі конкурс на лепшае знешняе афармленне прыбіральняў з выдачай пераможцам гадавога тэрміну кантрамарак;

- звярнуцца да Кабінета Міністраў з прапановай абвясціць гарадзенскія сарціры нацыянальным здабыткам беларускага народа.

**<u>Заўвага:</u> усе, хто далучаецца да прапановы ПАГОНІ, могуць выразаць гэты ліст і накіраваць на адрас: г.Гродна, плошча Леніна, 2а.**

# «Ваўкавыскія дызайнеры»

У першай палове 90-х гадоў на вакзале Ваўкавыск-цэнтр красаваліся два стэнды: з Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам з надпісам пад ім «Жыве Беларусь». Пасля сумнавядомага рэферэндума галоўны фасад вакзала «ўпрыгожвае» лукашэнкаўская сімволіка. У надпісе ж змянілася толькі адна літара: «Жыві Беларусь». Сапраўды, тады яна жыла паўнакроўным дзяржаўным і нацыянальна-культурным жыццём. Што ж, ад гэтага засталося толькі адно пажаданне.

**Сяргей Марозаў**

# Галавакружэнне ад поспехаў, ад якіх выць хочацца

**Напэўна, многія чулі, што сённяшняя дзеючая ў Беларусі самая народная з усіх часоў і народаў улада бессаромна абвясціла пра тое, што наша краіна зноў дасягнула новых поспехаў у сваім эканамічным і сацыяльным развіцці. Як сведчыць афіцыйная статыстыка, у мінулым годзе, як і наогул ва ўсе папярэднія гады, адбыўся чарговы рост унутранага валавага прадукта на тры працэнты, а рэальныя заробкі грамадзянаў падвысіліся ажно на 7,7 працэнта.**

Ну, здаецца, чаму ж нам не радавацца, чаму ж не весяліцца? Але няма гэтай радасці, няма той весялосці на абліччах пераважнай большасці нашых суайчыннікаў. Адкуль ёй быць, калі не адзін звычайны працоўны не тое што не адчуў ніякай прыбаўкі ў сваёй кішэні, але і наадварот, з горыччу заўважыў, што яго́ны дабрабыт рэзка пагоршыўся за апошні год.

Невядома хто, як і якім інструментам зафіксаваў вышэйназваныя лічбы, але я асабіста, выкарыстоўваючы самы дакладны ў дадзеным выпадку прыбор - свой асабісты кашалёк - сведчу, што ні пра якое падвышэнне ў мяне, як у настаўніка вясковай школы, рэальнага заробку размова ісці не можа. Наадварот, за апошнія два гады мой рэальны заробак зменшыўся больш як у тры разы. Тое самае я магу сказаць і пра заробак маёй жонкі - медычнага работніка.

Не пацвярджаюць рост свайго дабрабыту і другія катэгорыі насельніцтва: рабочыя, калгаснікі. Што тычыцца апошніх, то мяне вельмі ўражвае і здзіўляе іх цярплівасць і неадольная прага да выжывання. Гэта ж трэба, працаваць кожны месяц, а заробак у памеры 5-10-ці мільёнаў недэнамінаваных рублёў атрымліваць праз тры-чатыры і нават болей месяцаў.




Сёння ў вёсцы, нават заўсёды ўсім і ўся задаволеныя пенсіянеры, і тыя ўсё часцей пытаюцца ў мяне, калі скончыцца ўвесь гэты «беспредел» у краіне. На гэтае пытанне я ім заўжды адказваю, што гэта будзе працягвацца да той пары, пакуль Вы, людзі, не адкіпіце ад улады камунаноменклатурную, карумпаваную, хцівую і ненажэрную хеўру прайдзісветаў і галавацяпаў, якія даўно паказалі сваю поўную прафесійную няздатнасць, і разам з тым досыць дорага абыходзяцца для дзяржавы і яе народа. У гэтым сэнсе дастаткова сказаць, што на ўтрыманне органаў дзяржаўнага кіравання ў гэтым годзе ў Беларусі будзе накіравана 5,2 працэнта бюджэтных сродкаў, калі ў той жа час у значна больш багатай і магутнай Расеі толькі - 2,39 працэнта. А калі сюды дадаць тыя вялізныя фінансавыя выдаткі ў самую шматлікую, у разліку на тысячу жыхароў ва ўсёй Еўропе, нашу «слаўную» міліцыю і розныя спецслужбы, то і наогул усім астатнім ад бюджэтнага пірага застаецца хіба што кукіш.

Чыноўніцка-бюракратычная паліцэйская дзяржава, якая пабудавана ў нас, ніколі не будзе і не можа быць багатай і заможнай для ўсіх яе грамадзянаў, а толькі для той яе часткі, якая ўтварае сённяшняе тытульнае ўладатрымальнае саслоўе.

Яшчэ зусім нядаўна цяперашняя беларуская ўлада ў якасці аднаго з самых велізарных сваіх дасягненняў, лічыла своечасовую выплату заробкаў, замоўчваючы жабрацкія яе памеры. Падобна на тое, што і гэтае знакамітае дасягненне ўлады цяпер адыходзіць у нябыт. Напрыклад, першыя перабоі з выплатай заробкаў для бюджэтнікаў нашага Астравецкага раёна пачаліся яшчэ напрыканцы мінулага года і сталі сістэматычнымі цяпер. Мне, асабіста, не зразумела, чаму гэта маё меса, калі ўлада ўпарта сцвярджае, што краіна кожны год эканамічна прырастае сваім унутраным валавым прадуктам. Узнікае пытанне, калі гэта на самой справе так, то каму дастаецца гэты «прыпек» нашага эканамічнага пірага?

Вышэй мы ўжо гаварылі, што простаму люду ад гэтага эканамічнага «цуда» нічога не перападае. Але тады атрымліваецца, што яго альбо раскрадаюць карупцыянеры пры ўладзе, альбо яны бяздарна яго транжыраць і прагульваюць, што, па сутнасці, адно і тое ж.

Але як бы там на самой справе ні было, мы - простыя людзі - таксама хочам жыць, гадаваць сваіх дзяцей, а за сваю працу атрымоўваць не жабрацкую падачку з адтэрмінаванай на месяц ці болей выплатай, а такі заробак, які, як запісана ў артыкуле 21 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, забяспечыў бы наша права на годнае жыццё, уключаючы прыстойнае харчаванне, адзенне, жыллё і г.д.

Вось чаму аніякага апраўдання сёння не можа быць ні галоўнаму нашаму новаму раённаму вертыкальшчыку А.Кавалько, ні старому загадчыку райфінаддзела М.Вайцяхоўскаму, якія не выконваючы свае непасрэдныя абавязкі па своечасовай выплаце заробку бюджэтнікам, па меншай меры, праявілі нясціпласць і ў гэтых умовах заняліся абуладкаваннем свайго асабістага службовага камфорту. Яны сёння абодва абнавілі свой службовы аўтатранспарт, хоць аніякай патрэбы ў гэтым не было. Першы набыў мадэрновую «Волгу», другі - «Ніву». Прычым, у абодвух выпадках былі заменены старыя аўтамабілі, якія былі набыты толькі ў 1996 годзе, а гэта значыць, якім яшчэ было менш як чатыры гады.

З бюджэту, акрамя таго, таксама былі праплочаны і некаторыя незапланаваныя ў ім расходы на набыццё жылля новага вертыкальнага кіраўніка раёна, а таксама будаўніцтва жылля для новага яго першага намесніка.

Вядома, я зусім не супраць, каб улада таксама мела сваё дастойнае ўласнае жыццё, але толькі не за мой кошт, не за кошт маіх дзяцей, студэнтаў, якія чакаюць - не дачакаюцца, калі бацька выдасць ім сваю бацькоўскую стыпендыю. Бо тае стыпендыі, што дае дзяржава, ім хіба што толькі на каву і хапае. І то пры цяперашніх коштах - не вельмі.

Цікава, што гэтая старая-новая гісторыя для Астравецкага раёна цяпер зноў паўтараецца. Штосьці такое ўжо было, і пра ўсё гэта ўжо аднойчы ішла размова ў маім артыкуле «Астравецкая «вертыкаль» у дзеянні», дзе галоўным дзеючым героем быў былы галоўны вертыкальшчык М.Кудырка (ПАГОНЯ, ад 10 лютага 1998 года). Аднак, як кажуць дасведчаныя людзі, гісторыя на тое яна і гісторыя, што нічому не вучыць. А цяперашнюю ўладу - і пагатоў.

**Мікалай Уласевіч**





## АЛЯКСЕЮ КАРПЮКУ - 80!

# Карпюк хацеў забіць Прытыцкага, а Прытыцкі - скінуць савецкую ўладу ў Гродне



Іна Анатолеўна Карпюк - жонка Аляксея Карпюка

**Прачытаць - каб суперажыць, суперажыць - каб усвядоміць, усвядоміць, каб актыўна змагацца са злом, - такая мэта кнігі ўспамінаў ахвяраў руска-савецкага камуністычнага рэжыму, якія пражываюць ў Гродне. Кніга паўстала ў рамках супрацоўніцтва Гарадзенскай арганізацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў і БСДП «Народная Грамада». Мэта кнігі - не даць нашаму шматпакутнаму народу забыць, што ёсць таталітарызм, што ёсць чужаземнае панаванне. Кніга мае значную гістарычную і маральна-палітычную вартасць, таму аўтары кнігі (а іх 16 чалавек) хацелі б яшчэ пры жыцці пабачыць надрукаваным свой запавет нашчадкам.**

**Аднак друк такой аб'ёмістай кнігі (460 старонак) патрабуе выдаткаў, якія ні БСДП «НГ», ні Гарадзенская арганізацыя ахвяраў палітычных рэпрэсій не могуць пакрыць. Таму мы змяшчаем урыўкі з гэтай кнігі, спадзеючыся, што тыя, каму ненавісны таталітарызм, хто хацеў бы лепшай будучыні для нашых дзяцей і ўнукаў, дапамогуць у фінансаванні выдання.**

**Добразычлівыя ахвярадаўцы могуць пералічыць свае ахвяраванні на р/р 3015003100013 у АКБ «Белпрамбудбанк» г.Гродна, МФА 152101, код 335.**

Можа, я пачну з канца. Па ўзросце я ўжо бабуля, але не так даўно душэўныя мае сілы запатрабавалі ад мяне, каб я дабілася ад уладаў тлумачэння, чаму я не мела бацькі, чаму 14 гадоў тулялася па дзіцячых дамах. І вось калі я была ў камандзіроўцы ў Маскве, то гэтыя сілы прывялі мяне да будынка з шыльдай «Военная коллегия Верховного Суда СССР». Там я пакінула заяву, у якой пыталася, што здарылася з маім бацькам, чаму я ўсё дзяцінства, потым і пазней ды бадай што ўсё жыццё адчувала ціск, які ўвесь час не даваў мне спакою. Было мне ўжо за 50 гадоў, калі я пакінула там гэтую заяву. Да таго часу я не мела на руках ніякіх дакументаў, ніякіх даведак. Уся інфармацыя была ў Дзяржаўнай бяспецы...

Не паспела я вярнуцца ў Гродна, як атрымала паперу. Гэта было, як сёння памятаю, 12 кастрычніка 1989 года. Уласна кажучы, мне тыя паперы нічым ужо памагчы не маглі - запозна, жыццё адбылося. Але карцела...

*«...на Ваше заявление сообщаю, что Ольшевский Анатолий Адамович, 1904 года рождения, уроженец Картуз-Берёзы Пружанского уезда Гродненской губернии, постановлением комиссии НКВД и Прокурора СССР от 22 декабря 1937 года был приговорён к расстрелу. По выводам обвинительного заключения Ольшевский признан виновным в том, что на территории СССР занимался контрреволюционной шпионской деятельностью. Сведений о точной дате исполнения приговора в деле не приводится, но, как правило, приговор приводился в исполнение немедленно или на следующий день после вынесения приговора. Место захоронения при этом не фиксировалось. За более точными данными Вы можете обратиться в УКГБ по Московской области, где хранится прекращённое дело в отношении Ольшевского. Проведённой в 1956 году дополнительной проверкой установлено, что Ольшевский осуждён необоснованно. 22 декабря 1956 года Военная коллегия Верховного суда СССР реабилитировала Ольшевского посмертно. Понимая глубину трагедии, постигшей Вас в связи с незаконным репрессированием Ольшевского А.А., примите искренние соболезнования.*

***Зам. Начальника секретариата - полковник В.Полуянов.»***

Дзяды і прадзеды майго бацькі паходзяць з Гродна. Дзед пазней працаваў пісарам у вёсцы Шэні Пружанскага павета - збяднелая беларуская шляхта. Род меў нават уласны герб: белая варона з галінкай у дзюбе. Дзед быў вельмі набожным і адукаваным чалавекам. Перад нараджэннем майго бацькі сям'я пераехала ў Картуз-Бярозу - там дзяды і пражылі да самай сваёй смерці. Мелі яны трох сыноў і дачку. Падчас першай сусветнай вайны выехалі ў бежанцы, жылі ў Арзамасе. У сям'і панаваў культ ведаў, кнігаў і працы. Працавалі як маглі. Усё гэта раскапаў вучоны і пісьменнік з Брэста Уладзімір Андрэевіч Калеснік і напісаў пра гэта ў прысвечанай бацьку кнізе «Пасланец Праметэя». У Арзамасе хлопцы мелі кантакт з палітычна актыўнымі расіянамі. Бацькаў сябрук называўся Аркадзь Голікаў (будучы камандзір Чырвонай Арміі і пісьменнік Аркадзь Гайдар). Яны вучыліся ў адным класе, разам стваралі дзіцячую, а потым і камсамольскую арганізацыю. Цяпер у Арзамасе на доме, у якім жыла сям'я Альшэўскіх, вісіць мемарыяльная дошка з імем Анатоля Альшэўскага, аднаго з першых камсамольцаў горада.

Пасля заканчэння ўсіх тых войнаў дзед і бабуля вярнуліся ў Картуз-Бярозу, а хлопцы засталіся ў Савецкай Расіі. Старэйшы Яраслаў служыў у Чырвонай Арміі і меў столькі кубікаў, колькі меў бы іх цяперашні генерал. Бацька ж мой вучыўся ў камуністычным універсітэце імя Свярдлова. Пасля сканчэння вучобы яго перакінулі праз мяжу ў родную Заходнюю Беларусь. Будаваў беларускі камсамол, быў разам з Верай Харужай сакратаром ЦК камсамолу Заходняй Беларусі, а затым быў абраны сакратаром ЦК КПЗБ на III партканферэнцыі ў 1926 годзе.

Бабуля з дзедам і двое малодшых дзяцей аказаліся разлучанымі мяжою з старэйшымі хлопцамі, Яраславам і Анатолем. Я сваіх дзядулю і бабулю пабачыла ўпершыню ў 1947 годзе, калі ніводнага з хлопцаў, якія засталіся ў Расіі, ужо не было ў жывых. Толькі ў гэтым годзе яны даведаліся, што адбылося з маім бацькам Анатолем. Пра Яраслава мне было загадана не гаварыць бабулі і дзядулі нічога, бо той страшнай праўды яны, пэўна, не перажылі б. Калі яны апынуліся ў Польшчы, можаце ўявіць сабе, якое іх жыццё было: два сыны - відныя камуністы. Не жыццё, а кашмар.

Ад майго бацькі захаваліся ўіх 10 лістоў, палова - з Макатоўскай турмы ў Варшаве. Тыя заходнебеларускія камуністы былі ідэалістамі: верылі ў ідэю братэрства, роўнасці і свабоды. За гэта і заплацілі сваімі жыццямі, ды не толькі яны самі, але і іх унукі, праўнукі да гэтага часу плацяць. Нават будучы членам партыі, я сядзела цішэй вады, ніжэй травы, бо была дачкой ворага народа. А да таго ж я была яшчэ і жонкай Карпюка, пісьменніка-«нацыяналіста» - бо гаварыў і пісаў па-беларуску, сына кулака - бо бацька меў дзве каровы і кабылу Машку, а на тыя часы селянін з дзвюма каровамі быў ужо «кулацкае атродзье».

Бацька мой быў сакратаром ЦК КПЗБ, а муж - камсамольцам-падпольшчыкам. Бацька быў арыштаваны і трапіў у вядомую Макатоўскую турму ў Варшаве. Яго вельмі люта катавалі ў дэфензыве - пераламалі, заціскаючы дзвярыма, пальцы на руцэ, два пальцы давялося ампутаваць. Вось піша ён у адным з лістоў, што прачытаў Феербаха, Гегеля, чытае Міцкевіча і раіць сваёй сястры Зоеньцы, каб яна таксама яго чытала. З гэтага ліста я ўпершыню прачытала вядомыя міцкевічаўскія радкі: «Літво, ойчызна моя, ты естэсь як здрове». Астатнія лісты з Расіі. Тады Сталін бацьку і яшчэ чатырох дзеячоў КПЗБ паманіў на ксяндзоў. Сустракалі іх у Маскве з кветкамі, але не прайшло і года, як Сталін КПЗБ распусціў: гэта «бяка», а не партыя. І абмененых функцыянераў пасадзіў. Не ў лагерах яны загінулі - яны з Лубянкі не выйшлі. Як у той даведцы: у жніўні 37-га арыштавалі, а ў снежні расстралялі за «шпіёнскую дзейнасць». Гэта ж дзіўная рэч: у беларускай энцыклапедыі выдання 1969 года ў артыкуле пра Альшэўскага (Юрку Пружанскага) указана, калі нарадзіўся, а калі памёр - не ўказана. Яго сябар і родзіч Пётр Горын-Каляда, першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, загінуў гэтак жа, як і мой бацька. Абодва былі беларускія хлопцы, абодва марылі, што збудуюць беларускую дзяржаву, ашчаслівяць беларусаў. І Каляды няма, і Альшэўскага няма. У энцыклапедыі выдання 1984 года з'явіўся допіс, што Альшэўскі памёр(!) у 1937 годзе.

Бацька мой з маткай, Цыгельніцкай Фаінай Аляксандраўнай, таксама актывісткай рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, пазнаёміўся ў камуністычным універсітэце імя Свярдлова, у якім яны абое вучыліся. Яны пакахалі адно другога і пажаніліся. Так з'явілася на свет я. Праз год іх перакінулі сюды - у Заходнюю Беларусь, а я засталася там, у спецыяльным дзіцячым садку. Мая матка заставалася ў партыі да самай сваёй смерці, і не дзеля якой-небудзь выгады. Калі яе хавалі, то партыйныя бонзы стаялі, як гэта ў іх заведзена, у ганаровай варце, і выступіў адзін паплечнік з Бераставіцы, як і яна - былы падпольшчык. Ён сказаў:

- Што вы тут стаіце? Вось яна была камуністкай, бо ніколі аб сабе... А вы як радыскі: зверху чырвоныя, а ў сярэдзіне белыя, бо ўсё пад сябе заграбаеце. А Фаіна ўсё жыццё змагалася і памерла, нічога не маючы.

І мяне так выхавалі: як жа без партыі? У 18 гадоў студэнткай Гарадзенскага педінстытута падала ў 1947 годзе заяву ў партыю. Але мяне выклікалі з гаркама: «Твой отец - враг народа». Усё дзяцінства маё прайшло ў дзіцячых дамах Савецкага Саюза - нас так выхоўвалі: служыць ідэалам. Я нават вершы пісала: «Лес рубят - щепки летят». А лясы, аднак, карабельныя былі. Адно толькі апраўданне маю: не саромелася я ніколі майго бацькі, я ўсведамляла, што ён чалавек дастойны. Але мы не вінавацілі сістэму, лічылі, што гэта начальнікі кепскія. Нават Карпюк да самай смерці вінаваціў мясцовае начальства, а не сістэму. 36 гадоў я прабыла ў партыі, а потым свядома выйшла. Тыя, якія да сённяшняга часу не сталі відушчымі, - гэта страшныя людзі. Заходжу раз у аддзел кадраў пячатку паставіць, а там іх тры чалавекі сабралася разам з былым прарэктарам па завочным навучанні. І гавораць яны пры мне, не саромячыся (быццам я прадмет мэблі), як яны на мітынгу гэтым «зайцам» далі. Яны на гэтай зямлі ўсё жыццё пражылі, не садзіўшы, не сеяўшы, не збіраўшы, хлеб елі, дзяцей выгадавалі, унукаў. А беларусы - тыя, хто іх карміў у поце твару свайго, - «зайцы». Пасля смерці Карпюка было надрукавана яго «Развітанне з ілюзіяй». Першапачаткова гэты твор называўся «У глухой калдобіне». Жылі ў калдобіне, нічога не разумелі. У яго пяць сваякоў перабеглі ў Савецкі Саюз па лепшую долю і зніклі. Сам Аляксей таксама спрабаваў перайсці мяжу, але яго затрымалі польскія памежнікі, адлупцавалі, затое жыць застаўся. Можна цяпер кідаць камяні ў бок былых дзеячоў КПЗБ, аднак яны былі людзі светлыя, любілі Беларусь, добра ведалі яе гісторыю, не саромеліся беларускай мовы. А гэта ж трэба: так знішчыць тысячагадовую культуру еўрапейскага народа, затаптаць яго ў бруд - і ганарыцца гэтым! На свае вушы чула анекдот з вуснаў Янкі Брыля. Падышоў Брыль да чаргі на стаянцы таксі (тады мы маглі ездзіць на таксі - цяпер ён, канешне, такой раскошы сабе дазволіць не можа), запытаўся па-беларуску, хто апошні. На гэта з натоўпу нехта «пажартаваў»: прапусціце, маўляў, іншаземца.

Такім чынам, я нарадзілася ў Маскве, адзіная масквічка ў радні. Пасля садка перавялі мяне ў Інтэрнацыянальны дзіцячы дом у Іванава-Вазнясенску, дзе выхоўваліся дзеці камуністычных функцыянераў 27 нацыянальнасцяў. Я падазраю, што ўсе тыя функцыянеры спазналі такі ж лёс, як і кіраўнікі кампартыі Польшчы і Заходняй Беларусі. Маці мела ніжэйшы ранг за бацьку: працавала сакратаром Баранавіцкага акружкама КПЗБ. Яе арыштавалі, засудзілі. Сядзела яна ў Віленскай турме на Лукішках, што яе таксама ўратавала: прасядзела сем гадоў да прыходу ў 1939 годзе Чырвонай Арміі. А я з двухгадовага ўзросту - у савецкім дзіцячым доме. Але ж дом той быў знатны: былі там сыны Мао Цзэдуна - два кітайчыкі, дзеці Баляслава Берута, чэшскага генерала Слободы, французскіх, фінскіх, шведскіх, балгарскіх і з іншых краінаў камуністаў. З намі няньчыліся, МОПР фінансаваў наш дзіцячы дом, я пабывала нават у Артэку. Я і яшчэ некалькі такіх дзетак лічыліся палякамі, бо не ўжывалася там паняцце Заходняя Беларусь. Вучылі нас па-руску, але вывучалі мы таксама і «родныя» мовы, дзелячыся на нацыянальныя групы. Як даследаваў Роберт Раждзественскі, большасць гэтых дзетак загінулі потым у сталінскіх лагерах - з імі разлічыліся гэтак жа, як і з іхнімі бацькамі.

Але пакуль нас там трымалі, кармілі і апраналі нас цудоўна, выкладалі прадметы на найвышэйшым узроўні. Мовы былі - як цяпер у спецшколах, меліся для нас і гурткі розныя. У летнія месяцы дзяцей вазілі ў Арменію, Крым, на Беларусь. Усё было, пра што толькі марыць можна: нас вучылі спяваць, танцаваць, вязаць, шыць, фатаграфаваць. Там я навучылася ўсяму, чаму навучаю цяпер маіх унукаў. Гэта быў, па сутнасці, пансіён заходняга ўзору. Адзінае, чаму там не вучылі - жыць у сям'і, любіць бацькоў, братоў, сясцёр.

Калі я ўпершыню пабачыла фільм «Камісар», то заплакала, хоць скура ў мяне дубленая: жыццё яе зрабіла як бубен; я ніколі не была плаксівай. Бацькі мяне назвалі Інгаю ў гонар вядомай шведскай рэвалюцыянеркі. Аляксей тады запытаўся:

- Па кім ты плачаш, Інга?

- Па сабе плачу.

Бо калі я паглядзела гэты фільм, то мне стала страшна: гэта ж злачынства - так вылучаць жанчын. А мы ўсё здзіўляемся, чаму ў нас цяпер так многа кінутых дзяцей. Ледзь не кожны дзень «адказнікі» ў раддоме. Так закладзена ў гэтай сістэме амаральнасці і безадказнасці, у самай страшнай сістэме. Гэта ж быў не адзіны інтэрнацыянальны дом. Былі і спецыялізаваныя: напрыклад, іспанскія. Пасля 1937 года прывезлі іспанцаў, а затым некуды перамясцілі. І гэта былі дзеці людзей, абласканых сістэмай; яны не бачылі бацькавай ласкі, не адчулі матчынага цяпла. Я прыехала з апошняга дзіцячага дома ў Гродна пасля вайны, калі мне было 16 гадоў. Да 16 гадоў я ні разу не ела сямейных абедаў, ні разу не гуляла з роднымі, ні разу мяне не ўшчувалі бацька ці маці, ні разу не далі яны мне аніякай парады... Да замужжа я нават не ўяўляла сабе, што муж з жонкай спяць у адным ложку... Мы - пакалечаныя, абяздоленыя людзі.

Дзякуй Ралану Быкаву, які ўзняў гэтую праблему. Там жанчына - галоўная гераіня, камісарка - пакахала і нарадзіла. Войска адступіла, а яна засталася ў старога яўрэя: яе выдалі за дачку з дзіцём. І вось, скончыўшы карміць

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Новыя звесткі пра гарадзенскі балет

Гісторыкі гарадзенскага балета пачынаецца ў 1774 годзе, ад тэатральна-музычнай школы надворнага падскарбія Вялікага княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза. Тызенгаўз не толькі стварыў у межах Гродна шматлікія новыя мануфактуры, але і заснаваў уласны тэатр, прыкладаў усе намаганні, каб яго трупа магла канкураваць з тэатрамі Нясвіжа, Слоніма і Варшавы. Арганізацыя тэатра пачалася з запрашэння некалькіх музыкантаў, спевакоў і харэографаў з Італіі, Францыі і Германіі. Астатнія акторы павінны былі быць «свае». Каб іх рыхтаваць, была арганізавана тэатральна-музычная школа. Вучняў набіралі ў Паставах, Літвянах, Ігумене (зараз - Чэрвень), Хатынічах, Быцені ды іншых маёнтках графа. На пасаду балетмайстра ў 1773 годзе запрасілі маладога неапалітанскага харэографа Каэтана Пецінацці - ён навучаў танцам хлопчыкаў і дзяўчынак, а таксама сам выступаў як танцоўшчык. У 1777 годзе кантракт з Пецінацці быў прадоўжаны. Трупа падрыхтавала некалькі балетных спектакляў, якія ставіліся ў 1778 годзе.

Да сённяшніх дзён мы ведалі пра тры балетныя пастаноўкі гарадзенскай оперы (пакуль яна не пераехала спачатку на гастролі, а потым і на пастаянна ў Варшаву):

1) «Сялянскі балет», пастараль у адной дзеі;

2) «Другі балет пекараў», камічны балет у адной дзеі;

3) «Квартэт дудароў» - камічны балет у адной дзеі. Балетмайстрам усіх пастановак выступаў К.Пецінацці.

Даследаванне гісторыі гарадзенскай друкарні дазволіла пецярбургскаму кнігазнаўцу Міколу Нікалаеву не толькі ўдакладніць, але і пашырыць рэпертуар гарадзенскага балета. Падставу даў канвалют, знойдзены даследчыкам у бібліятэцы Акадэміі Навук у Санкт-Пецярбургу - некалькі сплеценых у адзін пераплёт тоненькіх друкаваных кніжачак XVIII стагоддзя.

У склад канвалюта ўваходзяць дзве тэатральныя праграмы, якія былі надрукаваныя на 1778 год з запасам (дзень і месяц спектакля не пазначаныя, але пакінута месца, каб можна было дапісаць ад рукі. Першая праграма - да ўжо вядомага спектакля «Сялянскі балет з двух актаў», а вось другая - выдадзеная для невядомага да сённяшніх дзён прадстаўлення: «Маскарад. Балетпантаміма. На тэатры Яго Высокасьці Яго Міласьці пана Графа Тызенгаўза надворнага падскарбія ВКЛ Году 1778. Дня... Месяца... У Гродне Прэзентаваны». Напрыканцы ўзгаданы пастаноўшчык балета - «вынаходнік пантамімы пан Каэтан Пецінацці з Неапалю». Пецярбургская знаходка яшчэ чакае асобнай публікацыі, у якой гісторык тэатра знойдзе і сюжэты пастаўленых твораў, і імёны выканаўцаў, большасці з якіх у 1778 годзе было ўсяго толькі па 12-16 гадоў. Цяпер, ведаючы пра чатыры спектаклі, нам будзе лягчэй зразумець прычыны пазнейшых трыумфаў гарадзенскіх выхаванцаў на тэатральнай сцэне.

**Алесь Шкнай**

**Нацыянальна-культурная камісія Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ абвяшчае аб арганізацыі выставы дзіцячага малюнка, прысьвечанай 650-ым угодкам Вялікага князя ВКЛ Вітаўта Вялікага і 590-ым угодкам Перамогі пад Грунвальдам, якая адчыніцца 14 ліпеня 2000 года. Творы на выставу падавайце не пазьней за 15 чэрвеня 2000 года. Камісія таксама арганізуе выставу дзіцячага малюнка «Мая краіна Беларусь», прысьвечаную 2000-гадовай гісторыі Беларусі і хрысьціянскаму шляху Айчыны. Выстава адбудзецца ў кастрычніку-лістападзе бягучага года. Творы на гэтую выставу падавайце або дасылайце па пошце да 15 верасьня 2000 года. Творы на абедзьве выставы падавайце на адрас: 220114, Менск, праспект Ф.Скарыны, д.133, кв.147, Нацыянальна-культурная камісія Партыі БНФ. У выставе маюць права прымаць удзел дзеці і падлеткі да 17 гадоў уключна.**

# «Гліняны Вялес» для Міколы Папекі

Здаецца, год з трыма дзесяткамі стаў вызначальным для вольнага пчаляра Міколы Папекі ў сэнсе сталення і канчатковага прызнання яго як паэта. Друкаваўся Мікола і ў Пружанскай раённай, і ў Берасцейскай абласной перыёдыцы, у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». У сярэдзіне 1999 года яго хораша прадставіла «Крыніца» - часопіс, за якім трывала замацавалася назва «элітарны». Ну, а зусім нядаўна Мікола Папека атрымаў прэмію Таварыства Вольных Літаратараў «Гліняны Вялес» за лепшую мастацкую кнігу 1999 года - свой першы зборнік вершаў з загадкаваю назваю «Чарнавікі...».

Таварыства Вольных Літаратараў месціцца ў Полацку, займаецца асветніцкай справаю: выдае зборнікі вершаў і прозы, выпускала альманах «Ксэракс беларускі», цяпер выходзіць часопіс «Калосьсе». У 1997 годзе «Гліняная Вялеса» атрымаў Алесь Разанаў, у 1998 годзе - Уладзімір Арлоў. На прэмію, акрамя Міколы Папекі, вылучаліся даволі вядомыя і ўжо прызнаныя творцы: Пятро Васючэнка, Адам Глёбус, Вінцэсь Мудроў.

**Р.Патапчук, г.Пружаны**

# Памяці Міхася Забэйды-Суміцкага

**4 красавіка - Дзень нараджэння вядомага беларускага спевака - Міхася Забэйды-Суміцкага**

***Светлай памяці Міхася Забэйды-Суміцкага прысвячаецца***

Не дапеў салавей, як чакалі,
Чыстых песень
ад вольных дзядоў.
Бо драпежнікі ладзілі балі,
Хвалявала іх лірніка кроў.
Паляцеў ён у вырай-самоту
І гучаў яго голас здалёк,
Нёс, як маці дзіцяці,
пяшчоту,
Кроплі каб не праліць
на парог.

**Ігар Лосік**



**Па гарызанталі:** 7.Галаўны ўбор лётчыка, танкіста. 8.Зборнік вершаў Кастуся Цвіркі. 10.Прыток Сожа. 11.Сталіца рэспублікі на Паўночным Каўказе. 12.Ляжанка на рускай печы. 14.П'еса Віталя Вольскага. 16.Дзякуючы яму Ньютан стаў славутым. 17.Самая доўгая частка цела ў мафіёзі. 19.Ферзь у адрозненне ад пешкі. 20.Зернеачышчальная машына. 24.Пецярбургская рака. 25.Магнітны сплаў. 26.Вельмі нізкі бас. 30.Спакойная, гладкая паверхня вады. 31.Левы прыток Прыпяці. 32.Мінерал, спадарожнік алмаза. 33.Дрэнны, нікчэмны чалавек. 34.Ягады з мохавых балотаў.

**Па вертыкалі:** 1.Грузапад'ёмны механізм. 2.Грубая фарбаваная тканіна хатняга вырабу. 3.Навука пра законы мыслення. 4.Пачуццё спагады. 5.Акружаная краіна. 6.Беларускі пісьменнік з Наваградчыны. 9.Саюз усходнеславянскіх плямёнаў. 13.Наносны пясчаны пагорак. 15.Шчыт Зеўса. 17.Вымагальніцтва, шантаж. 18.Яе сеюць вясною, а ўраджай збіраюць увосень. 21.Травяністы паўпаразіт. 22.Мадэль для мастака. 23.Пачатковая частка твора. 27.У старажытным Рыме - службовая асоба, якая ведала судовымі справамі. 28.Старажытная дзяржава ў Закаўказзі. 29.Самец свінні. 32.Баваўняны аксаміт.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N11:**

**Па гарызанталі:** 7.Танкетка. 8. «Амністыя». 10.Цукар. 11.Агрэбкі. 12.Чамбур. 14.Бялуха. 15.Хобат. 17.Стан. 19.Глядач. 20.Царква. 24.Плоў. 25.Жарон. 26.Гайдук. 30.Шчупак. 31.Рэборда. 32.Брама. 33.Лельчыцы. 34.Характар.

**Па вертыкалі:** 1. «Далягляд». 2.Феербах. 3.Якуція. 4.Эмір. 5.Кірмаш. 6.Рыштунак. 9.Ткачоў. 13. «Манас». 15.Уплыў. 17.Сувой. 18.Напад. 21.Злачынец. 22. «Роднае». 23.Фундатар. 27.Адбітак. 28.Малеча. 29.Гранат. 32.Буцы.

ТЭСТ ДЛЯ МУЖЧЫНАЎ

# Вы ведаеце, які Вы ў сексе?

**Калі жадаеце ведаць па навуцы, які Вы ў сексе, паспрабуйце шчыра адказаць на некалькі пытанняў.**

**1. Вам больш падабаецца апынуцца ў ложку з партнёркай:**

а) у цемры - 3 балы; б) у прыцемках - 9; в) як заўгодна - 5.

**2. Цэлы дзень Вы не бачыліся з каханай, працавалі. Вам хочацца есці. Пойдзеце:**

а) у спакойны рэстаран з добрай кухняй - 4 балы; б) у бістро - 10; в) у модны рэстаран - 6.

**3. Калі пасварыліся з партнёркай,..**

а) высвятляеце адносіны - 3 балы; б) маўчыце, як сыч - 1; в) цягнеце яе ў ложак - 5.

**4. Лічыце, што ў каханні:**

а) усё можна, табу не існуе - 7 балаў; б) ёсць межы, якія нельга пераходзіць - 5; в) табу існуе, таму вялікая свабода небяспечная - 1.

**5. Ваша партнёрка ў сексе рэдка дасягае піку. Кажа, што больш не можа гэтага трываць. Вы...**

а) спрабуеце любымі сродкамі падвесці яе да аргазму - 6 балаў; б) не спрабуеце болей эксперыментаваць - 2; в) просіце, каб яна хаця б падрыхтавала сябе да гэтага піку - 8.

**6. Прывабная дзяўчына пытаецца ў Вас, як знайсці дарогу. Куды Вы глядзіце, калі адказваеце?**

а) міма, проста паказваеце ёй дарогу - 4 балы; б) ёй у вочы - 6; в) на яе вусны - 10.

**7. Калі Вы лічыце, што ў каханні могуць быць «перапынкі», Вы...**

а) адкрыта размаўляеце пра гэта з партнёркай - 5 балаў; б) тлумачыце ўсё стомленасцю - 1; в) адчуваеце сябе хворым і даяце падаглядаць за сабою - 3.

**8. Партнёрка марыць пра шубку, Вы - пра калонкі Hi-Fi. Грошай жа ў Вас хопіць толькі на нешта адно. Што Вы купіце?**

а) шубку - 7 балаў; б) калонкі - 9; в) нічога - 5.

**9. Вы мяркуеце, што ў ложку заўжды трэба эксперыментаваць?**

а) так, але не з уласнай партнёркай - 0 балаў; б) не, гэта можа выклікаць цяжкасці - 5; в) безумоўна, трэба - 7.

**10. Вы даўно б'яцеся над нейкай справай. І вось - тупік. Вы...**

а) прыкладзеце ўсе намаганні, каб дасягнуць свайго - 10 балаў; б) кінеце справу - 4; в) звернецеся да калегі ў надзеі атрымаць ад яго новы імпульс - 8.

**Падвядзем вынікі**

Падлічыце колькасць набраных Вамі балаў.

**25-43 балы.** Чаму Вы такі нясмелы ў каханні? Вы і не марыце пра тое, каб стаць добрым каханкам. Баіцеся? Паводзіце сябе так, нібыта жанчыны Вас наогул не цікавяць. Поспехі ў працы для Вас значна важней за поспехі ў каханні? Але нешта хаваецца пад Вашымі цікаўнымі позіркамі. Вы багаты на пачуцці чалавек, здольны да спачування. Вы маеце патрэбу ў пяшчоце і здольны яе даць. Але з-за няўпэўненасці, недасведчанасці ў каханні Вы асцерагаецеся няўдачы. Навошта ўскладняць сабе жыццё? Вы ж ведаеце, што стрыманасць інтрыгуе жанчынаў. Дайце сябе спакусіць, і тады пераканаецеся, што Вы - выдатны каханак з цэлым акіянам пачуццяў.

**44 і болей балаў.** Відаць, Вы і сам ведаеце, што на самой справе цудоўны каханак. У Вас столькі пяшчоты, пекнасці, здатнасці, абаяльнасці, прывабнасці, непаўторнасці. Вы ведаеце, чаго чакае ад Вас жанчына. Ну што тут доўга распісваць? Мабыць, не толькі я Вам зайздрошчу!

# Бацьку амерыканскай астранаўтыкі беларусу Барысу Кіту - 90 гадоў!

**11 красавіка ў Новым замку адбылася вечарына, прысвечаная 90-годдзю акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыса Кіта.**

Наш зямляк славуты перш за ўсё тым, што вынайшаў паліва, на якім сёння лётаюць усе касмічныя караблі. Акрамя таго, Барыс Кіт заснавальнік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук «Еўразія», ганаровы прафесар Мэрылендскага універсітэта, доктар honoris causa Гарадзенскага Дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар філасофіі...

Рэпартаж з вечарыны і больш падрабязны расповед пра Барыса Кіта чытайце ў наступным нумары ПАГОНІ.

**Юлія Дарашкевіч**



**Адзін з арганізатараў вечарыны ў гонар Барыса Кіта - член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Андрэй Майсяёнак расказвае пра нашага славутага земляка**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Вас чакаюць поспехі ў бізнесе. Раптоўнае спатканне са Львом прынясе толькі задавальненне.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Дні, поўныя эмоцыяў і напружанасці ў адносінах з калегамі. Будзьце асцярожнымі ў гульнях.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Спрыяльныя дні для флірту, тым больш, што надвор'е акурат для прагулак.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Выкажыце сваё задавальненне падначаленымі і асобай, да якой Вы неабыякава ставіцеся.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Венера вяртаецца ў Ваш знак, што нясе Вам удачу ва ўсім. Не турбуйцеся! Усё ў Вас атрымаецца!

♍ **Панна (24.08-23.09).** На гэтым тыдні звярніце асаблівую ўвагу на самаадчуванне. Каханне пачакае.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** З дапамогай сяброў распачнеце новую справу. Ёсць шанец атрымаць аванс.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Што ж, работа Вас любіць. Але і ў амурных справах ўсё будзе добра.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Рамантычны настрой, асабліва ўвечары. Але апранайцеся цяплей, каб здароўе не пагоршылася.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Напружаны тыдзень, але вельмі паспяховы - у вялікіх і малых справах.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Вельмі добры тыдзень. Зоркі раяць Вам адпачыць у асяродку добрых прыяцеляў.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** У бліжэйшыя дні адчуеце зменлівасць лёсу. На гэтым тыдні вялікі шанец атрымаць падарунак.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 1 315 Наклад 8 100 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 12.04.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей